Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

## НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
пак. № 415.
Тэл. № 22-540.
Кантекар. рах. рэдакцыі №160073
у Бел. аддз. Дзяржбанка.

№ 24—25 (61) | Год выдання 2-гі — 24 кастрычніка 1936 г. | № 24—25 (61)

## У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ Зацверджаны наступныя аптова - адпускныя цэны на мужчынскія курткі, выпрацоўваемыя Белканторай Саюзмехгандля: мужчынскія курткі з „трасок стрыжаны"—477 р. 75 к., таксама з сабакі паўкоцік—451 р. 45 кап.

◆ Для правядзення падрыхтоўкі да абслугоўвання ўрачыстасцей у дні XIX-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі вызначана камісія ў складзе т. т. **Каменецкага** (старшыня), **Кісліка** і **Грыгаровіча**. Гэтым таварышам даручана намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па арганізацыі прадсвяточнага гандлю, гандлю ў дні свята, а таксама абслугоўванне гандлюючымі арганізацыямі кастрычніцкай дэманстрацыі, вечароў, маскарадаў і інш.

◆ Аптова-адпускная цана на коржыкі з макам, выпякаемыя пякарняй „Саюзпродмаг" устаноўлена ў размеры 8 р. 40 кап. за кгр., франка-вытворчасць. Рознічная цана на коржыкі з макам устаноўлена ў размеры 9 р. за кгр. і 18 кап. за штуку.

◆ Аптова-адпускная цана на мехавы жаночы жакет з пласцін крата, выпрацоўваемы Менскай промарцеллю „Пралетарый" устаноўлена ў размеры 683 р. за штуку.

◆ Аптова-адпускная цана на гаржэткі з розных мяхоў выпрацоўкі Менскай арцелі „Новы Шлях" устаноўлена ў наступных размерах: ліса натуральная і фарбаваная на шоўкавай падкладцы І-га гатунка—109 р., ІІ-га гатунка—77 руб., ІІІ-га гатунка—69 р., ІV-га гатунка—61 руб.; воўк на шоўкавай падкладцы І-га гатунка—64 руб., ІІ-га гатунка—49 руб.; шакал на шоўкавай падкладцы І-га гатунка—60 руб., ІІ-га гатунка—39 руб.; заяц кругляк без падкладкі—30 руб.

◆ Зацверджана аптова-адпускная цана на пранікі выпрацоўваемыя прадпрыемствамі сістэмы Спажыўкаапераццыі Белкаапсаюза ў размеры 4 руб. за кгр., франка-вытворчасць.

◆ Загадам па Наркамунутгандлю БССР абвешчана вымова дырэктару школы Наркамунутгандля т. **Капыловой** за бесгаспадарчасць і непрыняцце мер да захоўвання мэблі ў час рамонта школы.

◆ 7-га кастрычніка выдан загад па Наркамунутгандлю БССР аб падрыхтоўцы да зімы ацяпляльных прыладаў, электраасвятлення і прывядзення ў належную гатоўнасць пажарнага інвентара. Дырэктарам торгаў, кантор і начальнікам пажарнай аховы прапанавана не пазней 20 кастрычніка скончыць дэтальны агляд ацяпляльных прыладаў, электраправодкі, забараніць эксплоатацыю няспраўных прыладаў ацяплення да поўнага іх спраўлення і інш.

◆ Нягледзячы на неаднаразовыя ўказанні кіраўнікам гандлюючых арганізацый аб неабходнасці ўзмацніць гандаль рыбтаварамі, асабліва свежа-марожанай рыбай і карпам, да апошняга часу зусім мала ўдзелена ўвагі гэтаму віду гандля.

У сувязі з гэтым Наркамунутгандаль БССР папярэдзіў дырэктара бакалейнай канторы Менхарчгандля т. **Герчыкава**, што калі ім на працягу двух дзён не будзе забяспечан бесперабойны гандаль свежа-марожанай рыбай і карпам, да яго будуць прыняты суровыя меры ўздзейнічання. Менхарчгандлю прапанавана на працягу 3-х дзён прыстасаваць для гандлю паранай рыбай 18 магазінаў. Адначасова даручана Белхарчгандлю таксама пашырыць гандаль рыбай і ў іншых гарадах БССР.

У сувязі з тым, што на працягу ўсяго ІV-га кварт. чакаецца значнае паступленне свежа-марожанай рыбы і карпа, прапанавана ўсім гандлюючым арганізацыям забяспечыць бесперабойны гандаль рыбай на працягу ўсяго рабочага дню.

◆ Напярэдадні XIX гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі арганізуюцца прадсвяточныя кірмашы ў 10 гарадах БССР (Менск, Віцебск, Гомель, Магілеў, Бабруйск, Барысаў, Орша, Мазыр, Полацк, Рэчыца).

У парадку сустрэчнага гандлю на кірмашы будзе завезена тавараў на 4.850 тыс. руб.

У кірмашах прымуць удзел калгасы і калгаснікі 58 раёнаў БССР.

# Навесці парадак у прадпрыемствах грамадскага харчавання

### Загад па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

1/X-36 г. **№ 242** г. Менск

Праверкай праведзенай брыгадай, выдзеленай згодна загада Наркамунутгандля БССР № 772 ад 20/IX-36 г., устаноўлена, што факты ўказаныя ў артыкуле газеты „Рабочий" № 212 „Аб парадках у Менскіх рэстаранах" поўнасцю пацвердзіліся.

У калькуляцыі і ў цэнаўтварэнні існуе паўнейшы хаос. Зусім нездавальняюча пастаўлен улік выдатка прадукцыі і выхада страў.

Унутры паасобных прадпрыемстваў існуе сямейнасць і кругавая парука (сталовыя № 2 і № 1).

Абслугоўванне спажыўцоў дрэннае. Адсутнічае рэагаванне на скаргі наведвальнікаў. Маюць месца абважванне і павышэнне продажных цэн. З боку трэста няма дастатковага кіраўніцтва прадпрыемствамі і не ажыццяўляецца кантроль за імі. Маюць месца паасобныя злоўжыванні і хішчэнні прадуктаў (сталовыя № 2 і 7). Практыкаваўся метад механічнага спісання лішкаў і недастач прадуктаў, якія дасягаюць вялікіх размераў, без высвятлення і аналіза прычын.

Устаноўленыя праверачнай брыгадай вывады абследвання зацвердзіць.

Для знішчэння агідных з'явішч, якія наглядаюцца ў прадпрыемствах трэста рэстаранаў і кафэ— **загадваю:**

**1. Па сталоўцы № 2:**

а) за дапушчэнне абважвання спажыўцоў, за скарыстанне свайго службовага становішча ў карысных мэтах, якія выразіліся ў няўплаце на працягу 5-ці месяцаў за харчаванне ў сталоўцы, нягледзячы на існуючае палажэнне, за дапушчэнне хаоса ў цэнаўтварэнні і ўліку выдатка прадукцыі, матэрыял у адносіне былога дырэктара сталоўкі **Рубіна** пасладзь пракурору для прыцягнення яго да судовай адказнасці;

б) за хаотычны стан уліка выхада прадукцыі (за 3 м-цы не праведзен улік выхада кухоннай прадукцыі), за адсутнасць калькуляцыі і ўжыванне ў сувязі з гэтым самавольных цэн на стравы і за скарыстанне свайго службовага становішча (няўплата за харчаванне ў сталоўцы) бухгалтара **Кугеля** з работы зняць і матэрыял у адносіне яго пасладзь следчым органам;

в) за самавольнае ўжыванне цэн і няправільнае калькуляванне прадукцыі бухгалтару—калькулятару т. **Левінсону** абвясціць суровую вымову з папярэджаннем;

г) за сістэматычнае дапушчэнне недавеса па кухоннай прадукцыі, улічваючы, што пастановай НКУГ Дзяржаўнай гандлёвай інспекцыі № 40 ад 28/VI-36 г. шэф кухні сталоўкі № 2 **Бахановіч** быў ужо папярэджан, зволіць яго з работы шэфа кухні з паніжэннем у пасадзе;

д) абавязаць трэст неадкладна назначыць бухгалтарскую экспертызу сталоўкі № 2 для дэтальнай праверкі бухгалтарскіх дакументаў.

2. За павышэнне цэн на селядцы і рыбу, за незаконнае налажэнне ў 150 проц., на рыбу жараную, атрыманую з фабрыкі-кухні, абвясціць суровую вымову з апошнім папярэджаннем намесніка дырэктара сталоўкі № 1 т. **Чыбель.**

3. За дапушчэнне разбазарвання прадуктаў (малако, масла), за нерэагаванне на запісаныя ў кнізе скаргаў скаргі аб агіднасцях, якія ёсць у сталоўцы, абвясціць суровую вымову загадчыку сталоўкі № 7 т. **Пінскаму** з паніжэннем у пасадзе.

Повара **Рудкоўскую** за абкрадванне спажыўцоў (недавес селядцоў, за лішняе спісанне малака) з работы зняць з перадачай матэрыялу следчым органам.

4. За ігнараванне скаргаў наведвальнікаў, за бюракратычныя адказы і казённыя адпіскі, замест канкрэтнага расследвання скаргаў і прыняцця належных мер, дырэктару сталовай № 1 **Эдэлю** абвясціць вымову і дырэктару рэстарана **„Европа"** т. **Панцэвічу** паставіць на від, папярэдзіўшы яго, што пры далейшым выяўленні аналагічных фактаў ён будзе прыцягнут да суровай адказнасці.

5. За дапушчэнне ў сваёй сістэме фактаў абважвання, самавольнай калькуляцыі, нездавальняючы ўлік расхода прадукцыі, не забяспечанне рэагавання на скаргі пакупнікоў, дырэктару Трэста рэстаранаў і кафэ т. **Башневу** абвясціць вымову, абавязаўшы яго прыняць неадкладныя меры да ліквідацыі ўсіх агіднасцей і недахопаў у рабоце прадпрыемстваў.

6. Абавязаць т. **Башнева** на аснове рэзультатаў праверкі і прапаноў праверачнай брыгады намеціць канкрэтныя мерапрыемствы па палепшанню работы па кожнаму паасобнаму прадпрыемству і аддзелу трэста, і, у прыватнасці, правесці наступныя мерапрыемствы:

а) неадкладна праверыць выдаткі зварота па паасобных прадпрыемствах і відах страў і на IV-ты квартал 1936 г. спусціць цвёрдыя размеры накладанняў па паасобных відах страў (парцыонныя, бутэр-броды, буфетныя прадукты і т. д.);

б) на працягу бліжэйшых 5-ці дзён праверыць склад калькулятараў на ўсіх прадпрыемствах з тым, каб забяспечыць кваліфікаваны склад калькулятараў на кожным прадпрыемстве і там дзе іх няма ўкамплектаваць калькулятарамі, а ў дробных прадпрыемствах ускласці работу па калькуляцыі на іншага работніка з бухгалтэрыі па саўмяшчэнню. Работу калькулятара наблізіць непасрэдна да вытворчасці;

в) абавязкова праводзіць у жыццё пастанову НКУГ СССР аб тым, што кожная калькуляцыя павінна падпісвацца калькулятарам і дырэктарам прадпрыемства.

Усе прадпрыемствы трэста павінны праводзіць калькуляванне прадукцыі абавязкова штодзённа з улікам фактычнага сабекошту сыравіны для кожнай стравы.

На працягу 5-ці дзён пераглядзець усе пракалькуляваныя да гэтага часу стравы і ўстанавіць цану ў адпаведнасці іх фактычнага сабекошту плюс законнае накладанне. Усе калькуляцыі павінны быць абавязкова захаваны ў справах бухгалтэрыі.

г) ліквідаваць існуючую сістэму, калі нараўне з агульнай кладовай сталоўцы ёсць і падкладовая кухні, бо яна затрудняе ўлік выхада прадукцыі і прыводзіць да злоўжыванняў;

д) прызнаць зусім незаконнай практыку механічнага спісання лішкаў і недастач як па кухні, так і па кладовай. Лічыць неабходным усе бухгалтарскія праводкі па спісанню лішкаў і недастач праводзіць пасля дэтальнага аналіза і праверкі фактычнага паступлення і выдатка прадукцыі;

е) неабходна на працягу 5-ці дзён пераглядзець увесь склад кантралёраў на кухнях, вызначыўшы для гэтай работы правераных, лепшых стаханаўцаў. Выпрацаваць палажэнне аб функцыях і абавязках і прадугледзіць ажыццяўленне кантроля за абвесам водпуска з кухні страў;

ж) упарадкаваць харчаванне рабочых прадпрыемстваў у строгай адпаведнасці з дырэктывамі на гэты конт ГУСТ'а.

7. Папярэдзіць ўсіх дырэктароў прадпрыемстваў, што яны нясуць персанальную адказнасць за правільную калькуляцыю і правільны водпуск прадукцыі і за санітарны стан прадпрыемства і, што пры выяўленні ў далейшым выпадка абвеса, павышэння цэн і антысанітарыі на прадпрыемствах, яны будуць прыцягвацца да крымінальнай адказнасці.

8. Абавязаць дырэкцыю трэста арганізаваць на працягу бліжэйшай дэкады тэхвучобу работнікаў па паасобных спецыяльнасцях, канчаткова ліквідаваўшы непісьменнасць і малапісьменнасць, у першую чаргу сярод афіцыянтаў.

9. Даручыць продгрупу НКУГ БССР праз месяц правесці масавую праверку прадпрыемстваў Трэста кафэ і рэстаранаў, пад кутом погляду выканання гэтага загада і аб усякіх выяўленых парушэннях дакласці мне для прыцягнення вінаватых да стражайшай адказнасці.

10. Прасіць групком грамадскага харчавання правесці нараду стаханаўцаў і іншых работнікаў прадпрыемстваў, прапрацаваць вынікі абследвання і гэты загад, намеціўшы канкрэтныя мерапрыемствы па знішчэнню ўсіх недахопаў і палепшанню работы ўнутры кожнага прадпрыемства.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **А. Жогаў**

---

# Спыніць прыёмку недобраякаснай мэблі

## Пастанова Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

7/X-36 г. **№ 820** г. Менск.

Дзякуючы раду артыкулаў газеты „Комуніст“ (Бабруйск) і праверцы, праведзенай Бабруйскім Райунутгандлем (акты камісіі ад 18|IX—36 г.) устаноўлена вялікая колькасць недобраякаснай мэблі наступных вытворчых арганізацый у магазінах Бабруйска:

### Па сістэме Белкалеспромсаюза:

а) Бабруйская арцель „Чырвоны мэбельшчык“: канапы абіты матэрыялам з аднаго боку, ножкі пакалатыя, дошкі негэбляваныя, карнізы-галоўкі не падыходзяць—разламаныя; у шафах „Маці і дзіця“—пакаробленая фанера і шчыліны паміж швамі; у шафах канцылярскіх—шкло не прыстае да сценак дзверак;

б) Рагачоўская арцель імя Молатава: у буфетах адстае фанера, дзверкі бакавых тумб не прыпушчаны, а сярэдніх тумб перакошаны, паліроўка дрэнная—няроўная, верхнія бляты расклееныя;

в) Жлобінская арцель „Чырвоны мэбельшчык“: у фанернай спінцы дыванаў трэшчыны, аддзелка грубая, плінтусы не адпавядаюць колеру, спінкі не пакрыты лакам;

г) Бабруйская арцель—„1-е мая“ Белкаапінсаюза: пакаробленыя сядзенні ў венскіх крэслах, паліроўка дрэнная, няроўная, ліпкая.

### Па сістэме дрэўпромтрэста:

д) Мазырская мэблевая ф-ка „Профінтэрн“: у сталах пісьмовых — фанера адстае, пакаробленая, скрыні туга закрываюцца;

е) Бабруйская фабрыка імя Халтурына: у сталах канцылярскіх верхні блят пакароблены, замкі непрыгодныя, скрыні туга закрываюцца, яны дрэнна ачышчаны, хады ніжніх скрыняў выпадаюць і апошнія ўвальваюцца. У буфетах скрыні туга адчыняюцца, не ачышчаны, планкі дзверак рознага колеру, драўніна з вялікімі сукамі з ліцавога боку;

ж) вельмі нізкая якасць мэблі, выпускаемай Бабруйскай і Магілеўскай турмамі (крэслы дубовыя, тумбачкі, шахматныя столікі, пісьмовыя сталы);

з) Бабруйскі „Дзеткамбінат“ выпускае недобраякасныя шафы, сталы і інш.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць кіраўніка Белпромгандля т. **Кантара** камандыраваць у Бабруйск адказнага работніка, даручыўшы яму выявіць канкрэтных вінаватых у прыёмцы недобраякаснай мэблі ў магазіны г. Бабруйска і накласці на іх суровае спагнанне, аж да зняцця з работы і аддачы пад суд.

2. Прапанаваць Бабруйскаму аддзяленню Белпромгандля, звярнуць недобраякасную мэблю арцелям і мэблевым фабрыкам, адгрузіўшых апошнюю магазінам, прычым, у парадку загада НКУГ СССР ад 22|IX—36 г. за № 2577, перадаць справу следчым органам для прыцягнення да крымінальнай адказнасці вінаватых у адгрузцы бракаванай мэблі магазінам г. Бабруйска.

3. Забараніць гандлюючай сетцы прыёмку бракаванай мэблі і іншай прадукцыі і абавязаць кіраўнікоў гандлюючых арганізацый узмацніць апарат бракераў (спецыялістаў) на сваіх базах, у спецыялізаваных і буйных магазінах.

4. Указаць, што кожны магазін перад выпускам тавара са склада—дапаможнага памяшкання для продажу і ў момант продажу абавязан уважліва пераглядзець кожную рэч у паасобку і пры выяўленні тавара не адпавядаючага стандартам, альбо тэхнічным умовам, знімаць яго з продажу і пасля складання адпаведнага акта, звярнуць на базу гандлюючай арганізацыі альбо прамысловасці.

5. Звярнуць увагу старшыні праўлення Белкалессаюза т. **Ваўчка**, кіраўніка Дрэўпромтрэста т. Усхо-

пава, старшыні Белкаапінсаюза т. **Шэрмана**, начальніка ОМЗ НКУС і кіраўніка Бабруйскага „Дзеткамбіната“ на выпуск арцелямі і фабрыкамі недобраякаснай прадукцыі (мэблі) і папярэдзіць, што недобраякасная мэбля гандлюючымі арганізацыямі прымацца не будзе і што пасля складання актаў, справы будуць перадавацца следчым органам для прыцягнення бракаробаў да крымінальнай адказнасці. Побач з гэтым НКУГ вымушан будзе забараніць гандлюючым арганізацыям прыёмку мэблі ад паасобных арцеляў і фабрык, якія зараз-жа не ліквідуюць фактаў выпуску недобраякаснай прадукцыі.

Нам. Наркома Ўнутранага
Гандля БССР **А. Жогаў**

## Арганізаваць работу скупачных пунктаў

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

7/IX-36 г. № 819 г. Менск.

Па маючыхся ў Наркамунутгандлі матэрыялах Белпромгандаль, Белкаапромсовет і Белкаапінсаюз не забяспечылі арганізацыю скупачных пунктаў у адпаведнасці з распараджэннем Саюзнаркамунутгандля і Наркамунутгандля БССР; да гэтага часу не адчынены Белкаапромсоветам скуппункты, з ліку зацверджаных планам, па Менску (1), па Віцебску (1), па Гомелю (1), Слуцку (1) і Лепелю (1); не ўкамплектаваны штаты агентаў па скупцы Белпромгандаль—на 2 чал., Белкаапромсовет на 13 чал. і Белкаапінсаюз—1 чал.; пакупка і продаж праводзяцца ў адным і тым жа памяшканні; не арганізованы рамонт і рэстаўрацыя; скуппункты не забяспечаны прэйскурантамі цэн; не вывешаны правілы скупкі і рэалізацыі рэчаў, работнікі скупачных пунктаў не знаёмы з гэтымі правіламі; няправільна ўжываюцца нацэнкі на купленыя рэчы.

У мэтах ізжыцця ўказаных недахопаў і для ўпарадкавання работы скуппунктаў, Наркамунутгандаль БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць Белпромгандаль, Белкаапромсовет і Белкаапінсаюз:

а) забяспечыць да 10/X-36 г., у адпаведнасці з зацверджаным планам, арганізацыю скуппунктаў і агентаў па скупцы ў насельніцтва прадметаў хатняга ўжытку, устанаўлення раёнаў работы агентаў, належны інструктаж і кантроль за работай апошніх;

б) не пазней 15/X-36 г. аддзяліць аперацыі па пакупцы ад продажу на скуппунктах і забяспечыць безадкладную (не пазней 1—2 дзён) перадачу закупленых рэчаў для продажу і рамонта;

в) забяспечыць скуппункты прэйскурантамі цэн і належным інструктажам і абавязкова азнаёміць усіх работнікаў з правіламі, зацверджанымі НКУГ СССР;

г) забяспечыць абавязковае вывешванне правіл скупкі і рэалізацыі рэчаў ва ўсіх скупачных пунктах;

д) ацэнку рэчаў і накладанні праводзіць у строгай адпаведнасці з дырэктывамі Наркамунутгандля;

е) праверыць склад работнікаў скупачных пунктаў і агентаў па скупцы і паставіць на гэту работу добра правераных людзей;

ж) забяспечыць мерапрыемствы па ліквідацыі чаргоў і суталакі на скуппунктах.

2. Устанавіць, што купленыя ў насельніцтва новыя рэчы, не быўшыя ў карыстанні, перадаюцца для рэалізацыі ў агульную рознічную сетку па ўстаноўленых дзяржаўных продажных цэнах.

3. Абавязаць Горрайунутгандляў: а) разам з Горсоветамі і РВК забяспечыць узмацненне барацьбы са спекуляцыяй (устанаўленне на рынках дастатковай колькасці міліцыйскіх пастоў, нагляд за праяўленнем актывізацыі спекуляцыі на дварах і каля скуппунктаў і г. д.); б) арганізаваць сталы нагляд за работай скуппунктаў, дабіцца карэннага палепшання іх работы, не менш аднаго раза ў месяц праводзіць выбарачную праверку ўстаноўленых цэн на скупляемыя ў насельніцтва рэчы і не пазней 15/X паведаміць Наркамунутгандаль аб прынятых мерапрыемствах па ўпарадкаванню работы скуппунктаў і барацьбе са спекуляцыяй.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **А. Жогаў**

## Быць пільным—важнейшы абавязак кожнага гандлёвага работніка

### Усім кіраўнікам гандлёвых арганізацый і Акр. Гар. Райунутгандлям.

Накіроўваючы вам загад Наркамунутгандля Саюза ССР ад 8/IX—36 года № 2424, прапаную, пад адказнасць кіраўнікоў гандлёвых арганізацый і акр. гар. Райунутгандляў, давесці гэты загад да кожнага магазіна.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

### ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля Саюза ССР

8 верасня 1936 года. **№ 2424** г. Масква.

Маскоўскім гарадскім судом устаноўлена, што рад дырэктароў магазінаў „Мосторга“ (Александраў Н. А., магазін № 202, Мерэнкаў С. Н., маг. № 257, Кукош Н. Е., маг. № 217, Рэзнікаў О. Г., маг. № 270) у выніку адсутнасці пільнасці дапусцілі ў сваіх магазінах вобыск пакупнікоў аферысту **Кавалёву**, які выдаваў сябе за супрацоўніка НКУС.

У сувязі з гэтым загадваю:

1. Абавязаць усе галоўныя упраўленні, канторы і ўсесаюзныя аб‘яднанні Наркамунутгандля СССР, якія маюць гандлёвыя прадпрыемствы, неадкладна даць указанні па сваей сістэме аб забароне допуска ў магазіны з мэтай якой бы там ні было праверкі асоб, якія не маюць на руках адпаведных дакументаў аб праве правядзення якой бы там ні было праверкі.

2. Папярэдзіць усіх загадчыкаў магазінаў гандлёвых арганізацый, што ў выпадку допуска ў магазін каго-небудзь да праверкі без адпаведных дакументаў, яны будуць прыцягнуты да суровай адказнасці.

3. Прапанаваць кіраўніку Гормосгандля т. **Гухману** абмеркаваць спецыяльна пытанне аб дырэктарах указаных вышэй магазінаў, дапусціўшых аферыста **Кавалёва** да незаконнага вобыска наведвальнікаў і аб выніках расследвання і прынятых мерах паведаміць мне не пазней 15 верасня 1936 года.

Народны Камісар Унутранага Гандля СССР **Вейцэр**

## За нежаданне гандляваць соллю—да суровай адказнасці

### ПАСТАНОВА

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР і Упаўнаважанага Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры НКУГ СССР па БССР.**

7/X 1936 г. **№ 821** г. Менск.

Матэрыяламі праверкі гандлёвых прадпрыемстваў некаторых раёнаў БССР, праведзенай Бел. К-рай Саюзсольэбыт устаноўлена, што некаторымі гандлёвымі арганізацыямі не выконваецца загад Наркамунутгандля СССР № 2091 „Аб насычанасці, адпаведных запасах і бесперабойным гандлі соллю ў гандлёвых прадпрыемствах“, а іменна:

Соль у час праверкі ў верасні адсутнічала ў наступных гандлёвых прадпрыемствах:

а) у Чаускім раёне, у магазіне № 2 і ларку № 2 Магілеўскага аддз. Белпромгандля, у краме № 5 Магілеўскага аддз. Белваенгандля і ў краме № 4 Чаускага гарпо;

б) у магазіне № 8 Белхарчгандля (г. Віцебск);

в) у Аршанскім раёне ў краме № 1 Будаўскага сельпо на ст. Асінаўка, у краме № 12 Аршанскага аддзялення „Райтрансторгпита“ і ў краме № 50 (м. Сенно) Аршанскага аддз. Белпромгандля;

г) у Мехаўскім раёне ў краме № 56 Віцебскага аддз. Белпромгандля;

д) у Барысаўскім раёне ў краме № 2 Аршанскага аддз. „Райтрансторгпита“;

е) у Крычаўскім раёне ў краме № 22 Магілеўскага аддз. „Райтрансторгпита“.

Выяўлен недастатковы запас солі ў наступных гандлёвых прадпрыемствах:

а) у Касцюковіцкім раёне ў краме № 26 Аршанскага аддзялення Белпромгандля, у краме ОРС-а Леспрамгаса;

б) у Крычаўскім раёне ў крамах №№ 1 і 4 Магілеўскай к-ры Белхарчгандля.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР і Упаўнаважаны Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры НКУГ СССР па БССР пастанаўляюць:

1. Прапанаваць Нач. Аршанскай к-ры „Райтрансторгпита“ т. **Урбановічу** за адсутнасць у продажу солі ў краме № 2 (Н-Барысаў) загадчыка гэтай крамы **Крывіцкага** з работы зняць.

2. За адсутнасць у продажу солі ў краме № 8 Белхарчгандля (Віцебск) загадчыка гэтай крамы **Басіна** з пасады загадчыка магазіна зняць і перавесці на пасаду прадаўца.

3. За адсутнасць у продажу солі ў краме № 5 (м. Чаусы) Магілеўскага аддз. Белваенгандля загадчыку гэтай крамы **Горыну** абвясціць суровую вымову і ў апошні раз папярэдзіць яго, што пры выяўленні ў далейшым выпадкаў адсутнасці ў продажы солі ён будзе знят з работы і прыцягнут да судовай адказнасці.

4. Паставіць пытанне перад прэзідыумам Белкаапсаюза аб накладанні строгіх адміністрацыйных спагнанняў на старшыню Чаускага Райспажыўсаюза і старшыню Чаускага Гарпо за адсутнасць у продажу солі ў краме № 4.

5. Папярэдзіць дырэктароў Магілеўскага, Аршанскага і Віцебскага аддзяленняў Белпромгандля т. т. **Філонава, Штаркера і Кантара**, што пры выяўленні ў далейшым фактаў адсутнасці ў крамах солі, у іх сетцы, да іх будуць прыняты суровыя меры спагнання.

6. Адзначыць, што Аршанскім Райунутгандлем (**т. Зельдзін**), Віцебскім (**т. Кац**) і Крычаўскім Райунутгандлем (**т. Зайцаў**) і галоўным інспектарам Дзяржаўнай гандлёвай інспекцыі па Віцебску т. **Дзэмідавым** не ажыццяўляецца кантроль над выкананнем загада НКУГ СССР № 2091 гандлёвымі прадпрыемствамі.

Прапанаваць апошнім арганізаваць суцэльную праверку ўсей гандлёвай сеткі па выкананню загада НКУГ СССР № 2091 і аб выніках паведаміць НКУГ БССР да 15/X—36 г.

7. Папярэдзіць усіх Горунутгандляў, кіраўнікоў гандлёвых арганізацый, што пры выяўленні ў далейшым хоць бы аднаго факта адсутнасці ў крамах солі і іншых дастатковых тавараў, яны будуць прыцягвацца да стражайшай адказнасці.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **А. Жогаў**

Чва Упаўнаважанага Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі пры НКУГ СССР па БССР **А. Берман**

## Аплата працы бракераў

### ПАСТАНОВА

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля Саюза ССР і ЦК прафесіянальнага Саюза работнікаў дзяржгандля.**

27/IX-36 г. **№ 1219** г. Масква.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля Саюза ССР і ЦК Профсаюза работнікаў дзяржгандля СССР пастанаўляюць:

1. Устанавіць аплату працы бракераў (бракоўшчыкаў), працуючых ва ўсіх прадпрыемствах Наркамунутгандля СССР у выглядзе цвёрдых акладаў з заахвочваюча-прэміяльнай узнагародай за выкананне якасных паказчыкаў.

2. Размер акладаў бракераў (бракоўшчыкаў) устанаўліваецца дырэктарамі ўсесаюзных кантор і аб'яднанняў, а таксама дырэктарамі торгаў па ўзгадненню з мясцовымі ўнутгандлямі, на ўзроўні аплаты бракераў (бракоўшчыкаў) у прамысловасці па аналагічных групах тавараў і ў залежнасці ад кваліфікацыі работніка і аб'ёма работы, у межах ад 300 да 500 рублёў у месяц.

3. Устанавіць, што дырэктары буйных баз, дырэктары торгаў і аддзяленняў абавязаны праводзіць:

а) выдачу лепшым бракерам (бракоўшчыкам) базы (торга, аддзялення) звыш цвёрдых акладаў дадатковую заахвочваючую ўзнагароду за акуратную разбракоўку тавараў, павелічэнне колькасці праверавых тавараў, недапушчэнне пропуска брака і т. д. у размеры да 20% іх месячных акладаў, з выплатай штомесячна ў межах устаноўленага фонда зарплаты;

б) зmяншэнне месячных акладаў тым бракерам, якія дапусцілі ў даным месяцы пропуск брака, альбо тавара ніжэйшага гатунка за вышэйшы, аднак, не звыш чым на 20%.

4. Работнікі, якія выконваюць адначасовыя функцыі бракераў (бракоўшчыкаў), адборшчыкаў і сартыроўшчыкаў аплачваюцца як бракеры.

5. Бракеры (бракоўшчыкі) пры выяўленні брака тавараў атрымліваюць звыш цвёрдых акладаў і заахвочваючай узнагароды спецыяльныя прэміі ў парадку, устаноўленым пастановай Наркамунутгандля СССР і ЦК Саюза ад 14/IX-36 г. № 1160 і інструкцыяй да яе.

6. Гэтую пастанову ўвесці ў дзеянне з 1/X-36 г.

Наркамунутгандаль СССР І. **Вейцэр**

Старшыня ЦК Саюза работнікаў дзяржгандля **Мароз**

## Аб фактах скажэння палітыкі савецкага гандлю ў Круглянскім раёне

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

1/X-36 г. **№ 806** г. Менск.

Праведзенай праверкай групай цэн НКУГ БССР устаноўлена, што ў практыцы работы Круглянскага Райспажыўсаюза і Круглянскага местачковага спажыўтаварыства былі дапушчаны грубыя скажэнні палітыкі савецкага гандлю, якія выражаліся ў водпуску тавараў непасрэдна з базы раённым работнікам, водпуск тавара пры продажу ў магазінах не чыстай вагой, абмерванне і абважванне, нягледзячы на тое, што гэтыя факты абмяркоўваліся раённымі арганізацыямі ў жніўні м-цы г. г.

Практыка водпуска тавараў не чыстай вагай ужывалася да апошняга часу ў прадуктовай краме Круглянскага местачковага спажыўтаварыства работніцай прылаўка **Кубэко.**

Сталоўка местачковага спажыўтаварыства праводзіла продаж мяса з кладовай у сталоўкі работнікам раёна па паніжаных цэнах: мяса валоўе 2 р. 80 к. кгр., замест існуючай адзінай рознічнай цаны 7 р. 40 к. за кгр., бараніну па 3 р. за кгр., замест адзінай рознічнай цаны 7р. 40 к., свініну сальную неабразную па 4 р., замест 10 р. 40 к., чым груба парушана адзіная рознічная цана і замест разгортвання культурнага савецкага гандля Круглянскае местачковае спажыўтаварыства ўжывала сістэму закрытага гандлю.

Гандлёвая накідка Круглянскім местачковым спажыўтаварыствам ужывалася на голкі швэйных машын 32 проц., замест устаноўленай накідкі 11,1 проц.

Свечы парафінавыя, белыя, адпускаліся базай Райспажыўсаюза па рознічнай цане 9 р., замест устаноўленай рознічнай цаны 7 р. 60 к. за кгр. Валенкі прадаваліся з накідкай 20 проц., замест устаноўленай накідкі 8,7 проц.

Выходзячы з пералічаных фактаў, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Прасіць Белкаапсаюз т. **Каралевіча** разглядзець пытанне аб парушэннях палітыкі савецкага гандля Круглянскім Райспажыўсаюзам т. **Зарубайко** і Круглянскім местачковым спажыўтаварыствам т. **Цімаховіч** і вінаватых прыцягнуць да суровай адказнасці.

2. Прапанаваць старшыне Круглянскага Райспажыўсаюза т. **Зарубайко** неадкладна спыніць практыку самаснабжэння мясам праз сталоўку работнікамі раёна па паніжаных цэнах і накласці суровае спагнанне на вінаватых асоб у парушэнні цэн і гандлёвых накідак на тавары.

3. Абавязаць Райунутгандлі праверыць на месцах ужыванне адзіных рознічных цэн на мяса і іншыя прадукты гандлюючымі арганізацыямі і пры выяўленні фактаў продажу мяса па паніжаных цэнах, вінаватых асоб прыцягваць да адказнасці як за самаснабжэнне і парушэнне адзіных рознічных цэн.

4. Растлумачыць усім Горрайунутгандлям, што ўсе прадукты, на якія ўстаноўлены адзіныя рознічныя дзяржаўныя цэны, у не залежнасці ад месца іх паступлення (дэцэнтралізаваныя загатоўкі, прыгарадная гаспадарка, цэнтралізаваны фонд) могуць прадавацца толькі па ўстаноўленай адзінай рознічнай дзяржаўнай цане. Продаж па іншых цэнах, павышаных ці паніжаных, катэгарычна забараняецца і павінен разглядвацца як антыдзяржаўнае злачынства.

5. Матэрыял аб парушэнні цэн, гандлёвых накідак і самаснабжэнні перадаць пракурору рэспублікі для прыцягнення вінаватых да судовай адказнасці.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **А. Жогаў**

## Аб норме сярэдняй вагі цукравых мяхоў

*Загад па Наркамунутгандлю СССР і Наркамхарчпрому СССР № 1307/1065*

1. Зацвердзіць з 1-га студзеня 1936 г. наступныя абавязковыя, пры разліках з гаспадарчымі арганізацыямі, нормы сярэдняй вагі цукравых мяхоў:

| Назва мяхоў | Сярэдняя вага мяха ў гр. | |
|---|---|---|
| | Аднашоўнага | Двухшоўнага |
| Новыя цукравыя мяхі джута-кенафныя (ОСТ 8151/878) | 611 | 625 |
| Новыя цукравыя мяхі джута-кенафныя ўцежалёнага тыпа (ОСТ 8151/878) | 809 | 831 |
| Новыя цукравыя мяхі ільнаджутавыя (ОСТ 8149/876) | 648 | 661 |
| Новыя джута-кенафныя рубашкі (ОСТ 8151/878) | 533 | 545 |
| Новыя ільна-джутавыя рубашкі (ОСТ 8149/876) | 565 | 578 |
| Новыя цукравыя мяхі, вырабленыя да выдання (ОСТ 8149/876 і 8151/878) | 635 | — |
| Цукравыя мяхі, быўш. у карыстанні: | | |
| а) Ільна-джутавыя (ОСТ 8149/876) | | 750 |
| б) Джута-кенафныя (ОСТ 8149/876 і 8151/878) | 750 | |
| в) Мяхі вырабленыя да выдання (ОСТ 8149/876 і 8151/878) | | |
| Мяхі быўш. у карыстанні джута-кенафныя ўцежалёнага тыпа (ОСТ 8151/878) | — | 965 |
| Новыя ільняныя мяхі прадуктовыя (ОСТ 5353/561) | — | 430 |
| Ільняныя мяхі быўш. у карыстанні, прадуктовыя (ОСТ 5353/561) | — | 550 |

2. З выданнем гэтага загада ўсе раней выданыя загады і распараджэнні аб сярэдняй вазе цукравых мяхоў адмяняюцца.

Нам. Наркамунутгандля СССР **З. Балоцін**

Нам. Наркамхарчпрома СССР **Левіцін**

# ЦЭНЫ І НАКІДКІ

## Адпускныя цэны на вырабы промкааперацыі і кааперацыі інвалідаў

Канвенцыйнае бюро Наркамунутгандля БССР устанавіла наступныя цэны на вырабы промкааперацыі і кааперацыі інвалідаў з па-за планавай сыравіны, уціля і адыходаў, франка-вытворчасць.

### Арцель „Прагрэс"—Гомель, Белдрэўхімсаюз

Стол пісьмовы з дуба, з 5 скрынямі, на точаных ножках, сценкі пакрыты ножавой дубовай фанерай, крышка пакрыта цыратай, альбо сукном—130 р.

Шафа дубовая, з тумбай, з двумя дзверкамі і трымя скрынямі, з масіўнымі верхнімі і ніжнімі сувязямі, задняя сценка масіўная, рэзьба і нітраж па фотаздымку. Фанеравана ножавой фанерай. Размеры шафы 193 × 126 × 55, тумбы—193×45×48—225 руб.

Вешалка стаячая, точаная, з бярозы, з кругам пасярэдзіне, вышыня 1,8 метра, апрацоўка—лакам пад арэх—25 р. 70 к.

Тумбачка прыложкавая, з дуба, са скрыняй, лакіраваная—28 руб.

Тумбачка прыложкавая з сасны, са скрыняй, лакіраваная—23 руб.

Стол пісьмовы, канцылярскі, з дуба, з двумя скрынямі, лакіраваны, з падстольнай рашоткай, верх пакрыт цыратай, размер 115×80×75—60 руб.

### Арцель „Чырвоны мебельшчык"—Магілеў, Белдрэўхімсаюз.

Шафа плацяная, двухстворчатая, дубовая, фанераваная, з аднэй скрыняй, лакіраваная—160 руб.

Шафа аднастворчатая, дубовая, фанераваная, карнізы лакіраваны ўнізе і ўверсе—138 руб.

Шафа кніжная, двухстворчатая, фанераваная пад дуб, з адным замком, пакрыта лакам—140 руб.

### Арцель „Чырвоная Праца"—Старобін.

Палоззя ясеневыя—13 руб. пара.

### Гомельскі Лесдрэўхімсаюз.

Калёсы някутыя пад жалезны і драўляны ход, обад з ясеня, размер 72×57—75 руб. за стан.

### Арцель „Праца"—Рэчыцкага Лесдрэўхімсаюза.

Абруч—178 см., 49 руб. 60 кап. за тыс. штук, таксама 213 см.—56 руб. 50 к., таксама 249 см.—73 р., таксама 284 см.—96 р. за тыс. штук.

### Арцель імя Лекерта—Барысаў Белсампромсаюз.

Балеткі з набойкамі на гумавай падашве, верх камбінацыя свіного хрома з шэўрэтам на тэкстыльнай падкладцы, прашыўныя. Канвенцбюро ўстанавіла цану на партыю балетак у 5000 пар, якая ёсць у арцелі ў размеры—8 р. 40 кап. У далейшым арцелі прапанавана выпускаць балеткі палепшанай якасці з аблегчанай падашвой.

### Арцель „Гомтэкстыль"—Гомельскага Швейпромсаюза.

Дарожкі баваўняна-папяровыя, шырыня 65 см. з расфарбоўкай у чатыры колеры — 8 р. 50 кап. за метр. Арцелі прапанавана рабіць больш густую вязку—на 40—50 проц. (верхні афарбаваны слой).

Плацце баваўняна-папяровае, дзіцячае № 3, уцільнае—4 руб. Арцелі прапанавана выпускаць плацці з прамымі пройманмі, задзелываць швы і захоўваць гарманічную камбінацыю кавалкаў матэрыі.

### Полацкі Лесдрэўхімсаюз.

Сані сялянскія 5-ці капыльныя—42 руб.

Калёсы сялянскія, някутыя, пад жалезны і драўляны ход, обад з ясеня, размер 71×57—65 руб.

### Арцель „Труд-мебель"—Орша Лесдрэўхімсаюз.

Бочка асінавая з 2 жалезнымі і 6 драўлянымі абручамі 72×53—19 р. 27 к., таксама 80×53—21 руб. 28 к., таксама 90×57—24 р. 60 к., таксама з 4-мя жалезнымі і 4-мя драўлянымі абручамі—71×53—21 р. 58 к., таксама 8153—23 р. 70 к. і 90×57—27 р. 09 к.

### Арцель „Чырвоны мебельшчык"—Бабруйск.

Шафа для адзення, з тумбай і двумя скрынямі, дубовая, фанераваная, разобраная—260 рублей.

Шафа кніжная, двухдзверная, сасновая, афарбавана пад дуб—95 рублей.

Стол сасновы абедзены, з аднэй скрыняй, з замком, афарбаван пад дуб,—41 руб. Арцелі прапанавана палепшыць якасць выпрацоўкі стала і точку ножак.

### Арцель „Прагрэс" Бабруйск.

Крэсла з клёна альбо ясеня з падлакотнікамі—48 р.

### Арцель імя XVI Мюд'а—Менск.

Этажэрка лазовая, з ажурным густым пляценнем, пакрыта лакам і выжжана пад дуб—12 р. 75 кап.

Стульчык дзіцячы высокі, лазовы, спінка—падковай, з плеценым абадком, з чышчанага прута, сядзенне мягкае, абітае цыратай, пакрыт лакам і выжжан пад дуб—9 р. 68 кап.

Карзіна для паперы, з ажурным пляценнем, з белай лазы, з верхняй каймой—касічкай, дно дасчатае вышыня 40 см., дыаметр верха—30 см., дыаметр ніза—15 см.—2 р. 75 кап.

Стульчык лазовы дзіцячы начны, з адтулінай: спінка—падкоўкай, абадок плецен., сядзенне мягкае, абітае цыратай, пакрыт лакам і выжжан пад дуб—5 р. 90 к.

Ложак дзіцячы, 105×50 см. лазовы ажурн. з белага прута, афарбован маслянай фарбай, шкелет з сасновых альбо арэхавых дручкоў, ложак палепшанай канструкцыі—18 руб.

Ложак дзіцячы размерам 20 вярш., 90×45 см. лазовы, ажурны, з белага прута, афарбаван маслянай фарбай, шкелет з сасновых альбо арэхавых дручкоў, ложак палепшанай канструкцыі—16 руб.

Сумка жаночая з дэрманціна, 24×15, з аддзяленнямі з сярэдняй кішэняй для люстэркі, падкладка з каляровага саціна, ручка плеценая—17 р. 50 кап. Арцелі прапанавана апрацоўваць люстэрку дэрманцінам.

### Арцель „10 год Промкааперацыі".

Бочка асінавая з сасновымі доньямі і двумя жалезнымі абручамі 45×32—12 р. 45 кап., таксама 36×28—11 р. 12 кап., таксама 64×45—13 р. 35 кап.

## Арцель „Каалтэкстыльшчык“ — Віцебскага Швейсаюза.

Дарожка з баваўняна-папяровай тканіны і кудзелі, афарбаваная, шырыня 55 см.—5 р. 25 кап. метр. Арцелі прапанавана больш роўнамерна рабіць афарбоўку, без засек і вісячых нітак.

## Арцель „Пролетарый“ Менск, Белсампромсаюз.

Капелюш жаночы, без аддзелкі, з пухавага фетра 14 р. 75 кап.

Панама жаночая з фетра пухавага, з аддзелкай 13 р. 15 кап.

Вушанкі дзіцячыя, верх з сукна-малескін і меха-імітацыі, на падкладцы—5 р. 90 кап.

Берэты суконныя—4 р. 90 кап. Арцелі прапанавана выпускаць берэты з лепшай сыравіны.

## Арцель „Уперад“—Менск, Лесдрэўхімсаюз.

У сувязі з павелічэннем колькасці гуталіна ў кожнай 35 грам. банцы, замест ранейшых 27 гр., цана за 35 гр. шкляную банку ўстаноўлена ў размеры 34 кап.

## Арцель „25 Кастрычніка“—Віцебск.

Кісць з шчаціны і конскага воласа № 5 пры даўжыне кісці ў 23/4“—3 р. 28 кап., таксама № 5 31/4“—4 р. 20 к., № 6—3,5“—4 р. 50 кап., № 7—33/4“—4 р. 80 к., № 8—4“—5 р. 90 к., № 9 41/4“—8 р., № 10-4,5“—8 р. 90 к., № 11-43/4“—9 р. 80 к.

Кісць з хрэбтовай шчаціны і конволаса для пабелкі—27 р. 75 к.

* * *

Канвенцбюро прызнала неабходным правесці да 20-га кастрычніка выбарачную праверку якасці цэн вырабаў арцелі Белкаапрамсовета, Белкаапінсаюза і Белкалеспрамсаюза.

---

# Аптовыя накідкі па сістэме спажыўкааперацыі

### Пастанова Народнага Камісарыята Унутранага Гандля БССР і прэзідыума Белкаапсаюза

5/X-36 г. **№ 815/908** г. Менск.

Наркамунутгандаль БССР і прэзідыум белкаапсаюза пастанаўляюць:

У дадатак да пастановы Наркамунутгандля БССР і прэзідыума Белкаапсаюза ад 13/VI-36 г. за № 490/507 устанавіць аптовыя гандлёвыя накідкі па спажыўсістэме ў % % да адпускных цэн прамысловасці:

| | Валяны абутак | Аўчынашубныя тавары | Швейн. вырабы павыш. якасці |
|---|---|---|---|
| Базы БКС | 1,7 | 2,5 | 2,0 |
| Акрспажыўсаюзы | 2,0 | 3,0 | 2,5 |
| Райсаюзы да 7 клм | 2,2 | 4,0 | 3,0 |
| Ад 7 да 30 клм | 3,4 | 4,2 | 2,1 |
| Ад 31 да 60 клм | 3,6 | 4,4 | 3,2 |
| Ад 61 і вышэй | 3,8 | 4,6 | 3,3 |

Нам. Наркома Унутранага Гандля БССР **А. Жогаў**

Старшыня прэзідыума БКС **І. Каралевіч**

## Менскае заводакіраўніцтва Саюзхарчтары

1. Скрыня цесовая, сасновая 510×376×230 1 р. 25 к.
2. Скрыня цесовая, сасновая 660×463×340 для хлебазавода 4 р. 30 к.
3. Скрыня цесовая, сасновая 65×45×40 для макарон, ёмк. 20 кгр. 3 р. 10 к.
4. Скрыня цесовая, сасновая 345×415×225 3 р. 30 к.
5. Скрыня цесовая, сасновая 66×46×30 пад пранікі, ёмк. 30 кгр. 3 р. 30 к.
6. Скрыня цесовая, сасновая 50×30×20 пад халву 1 р. 85 к.
7. Скрыня цесовая, сасновая 60×35×27 пад карамель, ёмк. 30 кгр. 3 р. 30 к.
8. Скрыня цесовая, сасновая 60×37×27 пад бісквіт 3 р. 30 к.
9. Скрыня цесовая, сасновая 60×37×37 пад бісквіт 3 р. 30 к.
10. Скрыня цесовая, сасновая 62×37×27 для мыла 3 р. 15 к.
11. Скрыня цесовая, сасновая 78×37×37 4 р. 60 к.
12. Бочка асінавая, заліўная 61×54 ёмкасцю 170 літр. 27 р. 75 к.

## Арцель „Дрэваапрацоўшчык“ Менск

Шафа сасновая, адзінарная, пад дуб, з адной дзверкай і аднэй скрыняй, уверсе ёсць карніз, фарбаваная—109 р.

---

# Накідкі Райспажыўсаюзаў па хлебнаму віну

*(Цыркуляр Наркамунутгандля СССР і Цэнтрасаюза СССР і РСФСР № 12214).*

Усім край (абл) унутгандлям, Наркамунутгандлям аўтаномных рэспублік, усім рэспубліканскім, краявым і нацыянальным Саюзам.

Па дырэктыўнаму пісьму Цэнтрасаюза і Галоўспірта на 1936 г. Спіртатрэст прадстаўляе райспажыўсаюзам дадатковую скідку па хлебнаму віну ў 50 кап. за дэкалітр.

Указаная скідка прадстаўляецца ў выпадках завоза хлебнага віна на склады райспажыўсаюзаў і паступае ў распараджэнне райсаюзаў на пакрыццё выдаткаў па складскіх аперацыях.

У гэтых выпадках райспажыўсаюзы ніякіх дадатковых накідак па хлебнаму віну з сельпо браць не павінны.

Па транзітнаму завозу віна ў сельпо райсаюзы могуць спаганяць з сельпо накідку на пакрыццё выдаткаў па арганізацыі звароту і заключэнню дагавароў са спірта-водачнымі заводамі ў размеры не вышэй 10 кап. за дэкалітр.

Усе раней устаноўленыя нормы накідак райсаюзаў па хлебнаму віну па пастановах Цэнтрасаюза і Наркамунутгандля СССР аб размеркаванні гандлёвых накідак паміж звеннямі па кожнай рэспубліцы, краю, вобласці ў сувязі з гэтым адмяняюцца.

Наркамунутгандля СССР **І. Вейцэр**

Старшыня прэзідыума Цэнтрасаюза **І. Зеленскі**

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

г. Минск, Советская ул., Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 415, тел. 25-691. Адрес для телеграмм—Минск, Госторгпосредконтора, тек. сч. в Белорусской конторе Госбанка № 160012.

# ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

## Пищевкусовая группа

Варенье—яблоки в сиропе—50 тонн, сахаристость 56—60 проц., влажность 25—28 проц. Цена франко-завод 3500 р. тонна. Срок отгрузки—октябрь. Тара—бочки емкостью от 125 до 200 кгр. по ценам п/к СТО. Расчет акцептом.

Варенье брусничное и клюквенное по 40 тонн—всего 80 тонн, сахаристость 65—70 проц., влажность 25—28 проц., цена франко-завод 3900 р. Срок отгрузки—октябрь. Тара—бочки по ценам п|к СТО.

Варенье мандариновое в бочках—6 тонн и в банках 1,3 кгр.—две тонны. Качество—сертификат ГИК-а. Цена в бочках 6 р. 98 к., в банках—7 р. 30 к. за кгр., франко-вагон. Расчет акцептом. Тара продавца за счет пакупателя. Отгрузка немедленно.

Варенье вишневое II сорта, по сертификату ГИК-а, 10 тонн—5р. 50 к., франко-склад продавца. Тара—бочки 40—50 кгр. по п|к СТО. Отгрузка немедленно. Тара продавца за счет покупателя. Расчет акцептом.

Соки яблочные—20 000 декалитров, урожая 1936 г., консервированные сернистым ангидридом, цена франко-вагон отправления 18 р. декалитр. Тара—дубовые бочки за счет покупателя. Срок отгрузки IV-тый квартал, расчет акцептом.

Соки клюквенные—30 000 декалитров. Цена франко-станция отправления 24 р. 30 к. за декалитр, утвержден НКВТ БССР. Срок отгрузки—через 10 дней со дня подписания договора. Расчет акцептом.

Повидло яблочное—100 тонн I-го и II-го сорта, сахаристость 50—55 проц., цена 2 р. 23 коп. кгр., франко-станция назначения. Срок отгрузки по договоренности. Расчет акцептом.

Джем яблочный—50-60 тонн, сахаристость 55—60 проц., влажность 35 проц., цена 2 700 руб. тонна, качество—сертификат ГИК-а, франко-станция назначения. Отгрузка по договоренности.

Тесто яблочное I-го и II-го сорта—300 тонн. Цена франко-завод I-го сорта 1130 р., II-го сорта—1017 р. Качество—сертификат ГИК-а. Срок отгрузки по договоренности. Расчет акцептом.

Томат-паста I-го сорта 30 проц. плотности—100 тонн—3 р. 31 к., франко-станция отправления. Отгрузка в IV-м кварт. Расчет акцептом.

Томат-пюре I-го сорта, по сертификату ГИК-а, плотность 12 проц.,—100 тонн, в 100 кгр. бочках продавца за счет покупателя. Цена 1 р. 26 коп. кгр., франко-станция отправления. Отгрузка в IV квар. Расчет акцептом.

Пряники саксонские I-го сорта из 85 проц. муки 50 тонн по 4 руб. за кгр., франко-склад продавца. Отгрузка в IV-м кварт. Расчет акцептом.

Пряники медовые, выработки фабрик „Коммунарка" и „Спартак"—10 тонн. Цена франко-станция отправления 6 р. 20 коп. за кгр. утвержден. Конвенцбюро. Отгрузка немедленно. Расчет акцептом.

Пряники ванильные и тирольские по сертификату хлебной инспекции—10 тонн. Цена ванильных 5 р. 30 коп. кгр., тирольских 5 р. 55 коп. кгр., франко-станция отправления. Отгрузка октябрь-ноябрь. Расчет акцептом.

Пряники мятные, галеты, цукаты, лимонка, малинка и печенье пети-фур, доброкачественные по сертификату ГИК-а мятные—2,4 тонны по 5 р. 45 коп. кгр., галеты—1,5 тонны—по 4 р. 65 коп. кгр., цукаты—3 тонны—по 5 р. 35. коп. кгр., лимонка—23 тонны по 5 р. 35 коп., малинка—3 тонны по 5 р. 35 коп. и печенье пети-фур—по 12 р. 30 коп. кгр., франко-склад продавца. Отгрузка немедленно. Расчет акцептом.

Сушки из муки 85 проц.—50 тонн. Цена 3 р. 33 коп. кгр., франко-склад продавца, утвержденная НКВТ БССР. Отгрузка любыми партиями, на протяжении 1936 г.

Баранки сахарные из муки 30 проц., по 40—50 штук в кгр.—500 кгр. ежедневно. Цена 6 р. 10 коп. кгр. Франко-экспедиция хлебозавода, утвержденная НКВТ. Отгрузка ежедневно. Расчет акцептом.

Мед искусственный I-го сорта—100 тонн, сахаристость 50 проц., плотность 40 проц., качество-сертификат ГИК-а. Цена франко-вагон станция отправления 2 250 р. нетто. Отгрузка в IV-м кварт. Расчет акцептом.

Консервы рыбные фрикадели в томате—150 ящиков по 96 коробок, 435 гр. коробка. Цена 4 р. 30 к.

Консервы „око крабы"—200 ящиков по 96 коробок, 230 грамм коробка. Цена 5 р. 25 коп. Свиные бобы—200 ящиков, по 60 коробок. 520 грамм коробка. Цена 2 р. 10 коп. Куриное филе—150 ящиков, по 48 коробок, 500 грамм коробка. Цена 9 р. 60 коп., франко-станция отправления. Срок отгрузки немедленно, акцептом.

Шоколад ассорти в коробках 0,5 кгр., доброкачествен. Ленинградской госфабрики—300 коробок—22 р. 10 коп. за коробку. Цена франко-станция отправления минус скидка 8 проц. в пользу покупателя. Цена утверждена НКПищепромом. Отгрузка немедленно, акцептом.

Кисель сухой в порошке: клюквенный, брусничный и яблочный, 1-го сорта—30 тонн по 5500 руб. тонна. Отгрузка в IV-м кварт. 1936 г. Расчет акцептом.

Уксус спиртовый, крепостью 5 проц.—50 тыс. бутылок в 0,5 литр. Цена франко-завод, бутылка 85 коп. Отгрузка в IV-м квар. Расчет акцептом.

Кофе „Здоровье"—1236 кгр. и толокно 300 кгр. в коробках фасован по 250 грамм. Цена—2 р. 11 к. кгр., франко-склад. Расчет акцептом.

Папиросы Молдавской ф-ки промкооперации, 1-го сорта, 600000 шт. по 52 р. за тысячу штук, франко-станция отправления. Срок отгрузки—немедленно. Расчет акцептом.

Консервы рыбные: кета 3500 коробок, фасовка 450 грамм, по 3 р. 21 коп. франко-станция отправления. Качество по сертификату ГИК-а. Отгрузка—немедленно.

Уксус виноградный—96 баллонов по 16 кгр., всего 1600 кгр. по 90 коп. кгр., франко-станция отправления. Отгрузка немедленно.

Томат-паста 30 проц. плотности 1-го сорта, по сертификату ГИК-а,—100 тонн по 3 р. 16 коп. нетто, франко-станция отправления, отгрузка в IV-м кварт. Расчет акцептом.

### Лесохимическая группа

Лак спиртовый канифольный светлый, 75 проц. этилового спирта и 25 проц. канифоли—15 тонн в деревянных бочках. Цена франко-завод 5000 р. тонна, с отгрузкой в ноябре вагонами. Расчет акцептом.

Искусственный деготь для смазки кожи, обуви и сбруи—50 тонн в бочках емкостью 100—120 кгр. По ценам СТО. Цена франко-вагон станция отправления 600 руб. за тонну. Срок отгрузки поквартально, равными партиями. Расчет акцептом.

Строительная смола, изготовлен.: торф смолы 50 проц., древесной смолы 20 проц., полугидрола 15 проц., скипидара 15 проц.—300 тонн. Цена франко-вагон—465 р. 38 коп. Отгрузка в IV-м квар. Расчет акцептом.

Уголь сосновый (реторный)—1000 тонн—185 руб. за тонну, франко-вагон отправления. Отгрузка с ноября до 1-го января равными партиями.

Бочки новые осиновые, заливные, размер 80×53 см., на 4-х железных обручах—1000 штук—28 р. 85 коп. франко-вагон станция отправления. Отгрузка ноябрь-декабрь. Расчет акцептом.

Ящичные комплекты для помидорных ящиков, из хвойных и лиственных пород. Размер комплекта 400×240×130 м/м, согласно стандарта—115 тыс. штук—90 коп. комплект, франко-вагон станц. отправления. Отгрузка ноябрь и декабрь. Расчет акцептом.

### Спрос товаров

Макаронные изделия из муки 72, 30 проц. помола. Яйца куриные. Перец горький. Горчица в порошке. Уксусная эссенция фасованная крепостью 45—50 проц. и выше. Лавровый лист. Сода питьевая. Орехи разных сортов. Папиросы госфабрик всех сортов. Конфекты разные. Сухофрукты: сушенные сливы, яблоки, груши, сливы, урюк, куряга, сабза. Свежие яблоки. Груши. Мандарины. Компоты из фруктов.



Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-ты паверх, пак. 415, тэл. 22-540

Адк. рэдактар А. Жогаў — Адк. сакратар рэдакцыі Б. Маневіч

Галоўлітбел № 5197. Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 1409. Тыраж 750 экз.